Ліцэі

# Традыцыі новай школы

***Тваё жаданне вучыцца залежыць яшчэ і ад таго, у якім доме размешчана твая школа. Не надта спрыяюць навуцы шэрыя, безаблічныя будынкі з казарменнымі калідорамі, цеснымі кабінетамі, у якіх, да таго ж, няўтульна і холадна. Сцены таксама нясуць у сабе інфармацыю - энергетыку, якую закладваюць у іх майстры. На жаль, не кожнае сучаснае памяшканне школы можна назваць храмам навукі...***

Усе гэтыя думкі ўзніклі ў мяне падчас наведання Магілёўскага абласнога ліцэя, які месціцца ў будынку, узведзеным у канцы XIX стагоддзя. Прызначаўся ён пад навучальную ўстанову, дзе атрымлівалі адукацыю дзяўчаты, якія прысвяцілі сябе духоўнаму служэнню. З тых часоў ён перажыў многіх жыльцоў, але не перастаў служыць навуцы, не страціў свайго духу. Гэты дух лунае тут паўсюль. І ты ўсведамляеш, які гонар вучыцца ў такім доме, ты перажываеш лёс усіх яго жыльцоў, ты разумееш, што з'яўляешся іх нашчадкам, і таму павінны працягваць традыцыю. Месца гэтае – сапраўды адметнае, дзе можна вырасціць найсапраўднейшага ліцэіста. А дзеці гэтыя – шчаслівуйчыкі.

Ідэя арганізацыі падобнай установы – абласнога ліцэя – па-свойму дасканалая. Сельскія школы з вясковымі магчымасцямі не паспяваюць за патрэбамі часу. В.С.Багданаў – празорлівы кіраўнік. 11 гадоў таму ён стварыў Магілёўскі абласны ліцэй, куды сабраў больш здольных дзяцей з вёскі (больш здольных найперш да педагагічнай дзейнасці). Вопыт паказвае, што навуковую і іншую эліту трэба выхоўваць у найлепшых умовах.

Цяпер у Магілёўскай вобласці працуюць яшчэ дзве такія ж навучальныя ўстановы – у Крычаве і Быхаве. Сумесна ім ужо лягчэй дапамагаць сельскім школам узнімаць таленавітую моладзь.

Магілёўскі абласны ліцэй прымае на вучобу 30 працэнтаў дзяцей з вёскі і раённых цэнтраў. Якраз столькі, колькі можа змясціць у сабе інтэрнат установы. Адбор вядзецца праз конкурс, дарэчы, не малы. Сваіх вучняў кіраўніцтва ліцэя шукае сярод удзельнікаў прадметных алімпіяд, якія праводзяцца ў раёнах і вобласці. Але рэкламай сябе ў ліцэі ўжо даўно не займаюцца. Добрая слава – лепш за яе.

Падагогі ліцэя – у вялікім задавальненні ад сваіх выхаванцаў. Яны зазначаюць, што займацца з такімі дзецьмі – проста раскоша. Уваходзіш у клас, бачыш разумныя, дапытлівыя вочы – і цябе ахоплівае жаданне тварыць, рабіць як мага больш. З часам не лічышся. Напэўна, гэта мара любога настаўніка – мець удзячнага, зацікаўленага вучня. Але ж такое трэба яшчэ заслужыць.

Ліцэісты, на самай справе, – незвычайныя вучні. Крыху з хваляваннем уваходзіла я ў працоўны кабінет 9"А" класа. Іх у школе завуць "малышамі". Дзеці займаюцца разам толькі некалькі месяцаў, але ўражанне пры размове з імі складваецца такое, нібыта гэта – сталы калектыў. З'ядналіся яны падчас паходу. У школе ёсць такая традыцыя. Ліцэйскае жыццё ўсіх тых, хто паступіў, пачынаецца з паходу-эстафеты, у які адпраўляецца ўвесь клас абавязкова са сваім выхавальнікам (у ліцэі ёсць пасада вызваленага класнага кіраўніка), настаўнікамі профільных прадметаў і інструктарамі – выпускнікамі ліцэя. Рамантыка вандравання, прыгажосць роднай прыроды, сумесны быт, розныя цікавыя мерапрыемствы, спаборніцтвы робяць за тры дні амаль неверагоднае. У школу дзеці вяртаюцца ўжо знаёмымі паміж сабой людзьмі, яны ўлюбляюцца ў сваіх настаўнікаў, звыкаюцца з новымі патрабаваннямі. Пасля ўжо не спатрэбіцца ніякі адаптацыйны перыяд. Традыцыі – гэта моц. На іх трымаецца многае на зямлі.

У Магілёўскім абласным ліцэі гэта – не адзіная традыцыя. Прыйшліся да спадобы вучням яшчэ і "капуснікі" – пасвячэнне ў ліцэісты. І клуб ролевых гульняў за тры гады набыў папулярнасць. Падчас падрыхтоўкі да новай гульні жадаючых столькі, што даводзіцца праводзіць конкурсны адбор. У працэсе гульні дзеці прымаюць на сябе такія сацыяльныя ролі, якія ім пакуль не даступныя. Трэба смела пагледзець унутр сябе, прымераць да сябе іншы стыль паводзін, зразумець сябе. Можа, калі-небудзь такія гульні дапамогуць дзецям пазбегнуць пэўных памылак у жыцці. Скарбонка ролевых гульняў увесь час папаўняецца, і зараз іх ужо сталі складаць самі ліцэісты.

Дзевяцікласнікі яшчэ толькі далучаюцца да традыцый ліцэя, аднак адзначаюць, што яны ім вельмі падабаюцца ўжо.

9 "А" – фізічны клас. Для іх настаўнік Барашкаў – не толькі мэтр фізікі, але і любімы чалавек. Многія паступаюць у ліцэй менавіта з-за яго імя. Сакрэт яго настаўніцкага таленту вучні бачаць у ягонай прастаце: даходлівасці тлумачэння матэрыялу, цёплых адносінах. У Барашкава, па словах дзяцей, кожны можа на выдатна ведаць фізіку. Мабыць таму яго фізічныя класы – самыя шматлікія. Валерый Васільевіч Барашкаў – Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь. Асаблівага поспеху яго выхаванцы дамагліся на Міжнароднай алімпіядзе па фізіцы ў гэтым годзе: Аляксандр Ермаліцкі атрымаў "золата", а Сяргей Максімаў – "срэбра".

У Магілёўскі абласны ліцэй ідуць вучыцца не толькі да Барашкава, але і да Людмілы Васільеўны Паповай, таксама Заслужанага настаўніка Рэспублікі Беларусь. З-пад яе крыла вылятаюць у свет новыя паэты і празаікі. За дзесяць гадоў у ліцэі падабраўся моцны творчы калектыў педагогаў. Усе яны заслугоўваюць удзячнасці за сваю працу. Педагогі тут разумеюць, што яны працуюць з лепшымі дзецьмі, якія вызначаюцца яркімі разумовымі здольнасцямі, развітай вобразнасцю, усебаковай цікавасцю. Такія вучні патрабуюць ад сваіх выхавальнікаў-настаўнікаў асаблівай увагі і павагі да сваёй унікальнай асобы. Ім неабходна і свабода. У ліцэі ўсё гэта ўлічваецца, таму створана асаблівая атмасфера супрацоўніцтва і творчасці.

Быць ліцэістам – нялёгка. Па ўзроўню ведаў іх параўноўваюць са студэнтамі ВНУ першых курсаў. Вучэбная нагрузка – вялікая, да 40 гадзін на тыдзень. Вытрымаць такое могуць толькі моцныя. Яны і заслугоўваюць гонару заканчваць школу ў званні ліцэіста.

А на развітанне вучні ўпотайкі прыносяць у "трэці" пакой (кабінет псіхалогіі) свае фотаздымкі (самых розных гадоў, пачынаючы з маленства) – каб памяталі, каб не забыліся. Выпускнікі крышку з рэўнасцю пакідаюць сцены роднага ліцэя. Прыйдуць новыя вучні, і яны палоняць сэрца і ўвагу твайго настаўніка. І ўсё зноў паўторыцца.

***

Такое маё першае ўражанне ад Магілёўскага ліцэя. Здаецца, яно адпавядае рэчаіснасці. Пасля вяртання з камандзіроўкі я атрымала ліст ад Вольгі Шэўчык, вучаніцы менавіта таго, 9 "А" класа, з якім я гутарыла ў ліцэі. Дзяўчына спяшалася падзяліцца сваёй радасцю ад змены навучальнай установы. Яна атрымала новы імпульс, трапіла ў асяроддзе салідарных людзей. Другая школа дала яшчэ адзін шанс, адмовіўшыся ад сваіх звычак, пераглядзець сваё стаўленне да вучобы, пачаць усё спачатку.

Вось што дзяўчына напісала:

"Пасля залічэння ў ліцэй я і мае аднакласнікі па-іншаму сталі глядзець на вучобу. У школе мы займаліся дзеля адзнак, бацькоў або таму, каб даказаць астатнім, што ты лепшы. Толькі адзінкі вучыліся дзеля сябе. Навучанне ў ліцэі пабудавана на ўзаемадапамозе. Наш клас – як адна вялікая сям'я. Чаму так? Таму што паходы, розныя мерапрыемствы, ды і ўвогуле некалькі месяцаў узаемін у новым коле людзей, змянілі кожнага з нас, і я лічу, што ў лепшы бок.

Але мы не былі б такімі дружнымі, каб не наш любімы і непаўторны, самы лепшы – наш настаўнік фізікі Валерый Васільевіч Барашкаў. Гэтага незвычайнага чалавека, напэўна, ведае ўся Беларусь. Яго стыль выкладання дапаможа дасканала засвоіць прадмет любому. Валерый Васільевіч размаўляе з намі як з роўнымі, ён паважае і любіць нас па-бацькоўску. На яго ўроках усе заўжды ўважлівыя. Мы паважаем свайго настаўніка.

Увогуле, усе настаўнікі ў ліцэі – добрыя і здольны зразумець кожнага з нас. За месяц я палюбіла ліцэй. Ён стаў маім другім домам, і я не шкадую, што зрабіла такі выбар".

***

На нейкі час удыхнуць атмасферу ліцэйскага жыцця мне дапамагла Надзея Іванаўна Савіч, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце. Дзякую за тую асалоду, якую я атрымала. Тады я зразумела, што школы вызначаюцца не настаўнікамі і не праграмамі, а сваімі традыцыямі.

**Святлана КІРСАНАВА.**



І сёння дзейнічае створаная восем гадоў назад у пасёлку Камунар Буда-Кашалёўскага раёна студыя бальных танцаў. Мясцовая птушкагадоўчая гаспадарка знаходзіць магчымасць падтрымаць студыйцаў, якія з годнасцю адстойваюць гонар раёна на розных конкурсах. На міжнародным фестывалі бальных і спартыўных танцаў "Ружовы фламінга", што праходзіў у Гомелі, сельскіх танцораў выклікалі на "біс".

НА ЗДЫМКУ: "ветэраны" сельскай студыі бальных танцаў дзесяцікласнікі Алена Разумава і Аляксандр Казлоў.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

Скажу добрае слова

# *Свойскія дзічкі,*

## альбо І ў лесе будуць яблыні цвісці

***Вольга Пятроўна падышла да люстэрка, правяла пальцам пад вачыма, па шчаках. "Божа мой! Гэта ты, тая дзяўчына, што сорак гадоў таму пачынала ў гэтай школе працаваць?", - здзіўлена вымавіла яна ці то для сябе, ці то для мяне. І цяжка ўздыхнула, быццам скінула з плячэй цяжар усіх гэтых, пражытых у адной мясцовасці, гадоў.***

У душы я разумеў яе. І мае сорак ад першага самастойнага ўрока праляцелі, нібы птушкі. І, вядома ж, нашы твары пакрыліся тонкім "павуціннем" – адмецінамі ўзросту. А ў душы я па-добраму зайздрошчу настаўніцы. Яна выхавала, лічы, два пакаленні: бацькоў вучыла, цяпер – іх дзяцей. Апавядае яна мне пра гэта і шчыра ўсміхаецца. Значыць, задаволеная. Шчаслівая.

У Жырмунах Вольга Пятроўна скончыла дзесяцігодку і засталася тут выкладаць біялогію, калі атрымала дыплом біяфака Белдзяржуніверсітэта.

### ЯК ГЭТА БЫЛО

Першы гурток "Юны батанік" у Жырмунскай сярэдняй школе ўзнік яшчэ ў 1957 годзе. Тады юныя натуралісты збіралі насенне розных дрэў. Іх стараннем быў закладзены гадавальнік на вучэбна-вопытным участку ля школы. Саджанцы паклалі пачатак школьнаму саду, а таксама дэндрарыю. А ініцыятарам гэтага пачыну былі мясцовыя выкладчыкі біялогіі Дзмітрый Станіслававіч Багусевіч і Зінаіда Іванаўна Усава. Сваю справу як эстафету яны перадалі Вользе Пятроўне Агеенка.

Жырмунскае лясніцтва з даўніх часоў лічылася адным з лепшых на Гродзеншчыне. Працоўны калектыў тут узначальваў Мікалай Сяргеевіч Клубовіч, заўзяты аматар прыроды, выдатны спецыяліст, сябра дзяцей і педагогаў. Пенсіянер Клубовіч і цяпер не пакінуў свайго любімага занятку. Кажа, што без лесу яму, як без паветра, не жыць. Пад кіраўніцтвам Мікалая Сяргеевіча і Вольгі Пятроўны дарослыя і дзеці на працягу чатырох гадоў (1968–1972) залажылі гадавальнік – ажно на 32 гектары.

### БЯРОЗЫ ДЫ СОСНЫ, БЫЦЦАМ РОДНЫЯ СЕСТРЫ

Лясніцтва Жырмунскай адзінаццацігодкі, што на Воранаўшчыне, сёння займае 64 гектары. Юныя аматары прыроды маюць сваю экалагічную сцяжыну. З цягам часу школьнікі сваімі сіламі стварылі два гадавальнікі. У першым з іх размешчаны дэкаратыўныя расліны і сеянцы сасны ды ёлкі.

А ў другім гадавальніку разам з юнымі натуралістамі працуюць вучоныя з розных краін. Яны вырашаюць праблему еўрапейскага маштабу: вырошчваюць вопытным шляхам невысокія ростам сосны, якія павінны, на думку спецыялістаў, упрыгожваць многія еўрапейскія гарады. У асаблівай цане і смала гэтых дрэў.

Спраў у юных лесаводаў заўжды шмат. Летась яны пасадзілі дрэўцы на двухгектарнай плошчы. Такое заданне ў вучняў на кожны год. І яно абавязкова выконваецца. Для сваіх пярнатых сяброў дзеці пабудавалі і размясцілі на лесанасеннай плантацыі 40 шпакоўняў і столькі ж кармушак, ежа ў якіх была на працягу ўсёй зімы.

Юннаты абгарадзілі 10 лясных мурашнікаў, правялі разам з дарослымі ачыстку 2 гектараў лесу, нарыхтавалі 900 кілаграмаў ягад араніі і 22 кілаграмы – айвы японскай. А да ўсяго – 7 кілаграмаў лекавых траў.

Папоўнілі вучні свае веды праз шэраг мерапрыемстваў. Яны арганізавалі выставы букетаў і вырабаў з прыроднага матэрыялу, правялі святы і ранішнікі, прысвечаныя "залатой восені", "Дню зямлі" і інш.

### СПРАВА ЎСЯГО ЖЫЦЦЯ

Дасягненняў у юных лесаводаў шмат. Яны вядуць гісторыю свайго лясніцтва. Вось адзін з запісаў у гэтай хроніцы. У 1996 годзе вучаніцы 8 класа Крысціна Юргілевіч і Таццяна Швед прымалі ўдзел у рэспубліканскім злёце "Юны лесавод". Мерапрыемства гэтае праводзілася на базе летніка "Зубраня" і прысвячалася 30-годдзю школьных лясніцтваў. Дзяўчынкі выступалі са сваімі паведамленнямі аб выніках вопытніцкай работы. Таня заняла трэцяе, а яе сяброўка – чацвёртае месца. Яны атрымалі адпаведныя дыпломы ды памятныя падарункі.

І хаця час пайшоў не той, жыве добрая традыцыя. Два гады таму прымалі ўдзел у навукова-практычнай канферэнцыі ў Мінску дзевяцікласнікі з Жырмун – Ганна Бянкевіч і Валерый Мелянцэвіч, які падзяліўся асабістым "вопытам па размнажэнню абляпіхі чаранкамі". А Ганна дакладвала, як юннаты вядуць гатункавывучэнне бульбы ў сваёй гаспадарцы – на эксперыментальнай базе "Кастрычнік". Дарэчы будзе сказаць, што справа, якую пачаў Валерый у школе, прадоўжыцца для яго на ўсё жыццё. Цяпер ён вучыцца ў Гродзенскім аграрным універсітэце.

Трэба спадзявацца – выхоўваюцца ў школьным гуртку "Экалогія роднага краю", які вядзе Вольга Пятроўна, будучыя біёлагі. Васьмікласнік Саша Сургіневіч апавядаў мне аб тым, як яму цікава было летам у "Зубронку", куды вазіў ён вынікі сваіх даследаванняў аб мурашах. Напрыклад, ён набраўся цярпення, каб падлічыць, колькі ношаў цягнуць гэтыя ўпартыя працаўнікі за гадзіну ў напрамку свайго жылля. Саша сядзеў і пінцэтам акуратненька, каб не пашкодзіць, "абяззбройваў" па аднаму мурашу на працягу гадзіны, а затым падлічыў усе ношы. Атрымалася каля тысячы. Па прыкладу сваіх падвопытных ён будуе і сваё жыццё: кожны дзень мае занятак. Яго чакаюць свае мурашнікі ў лесе. Саша займаецца развядзеннем і рассяленнем гэтых цікавых лясных жыхароў.

А ў яго сябра, таксама аднакласніка, даследаванне іншага плана. Алег Турчын праводзіць гатункавыпрабаванне вінаграду. Я неяк заікнуўся перад ім, што мару мець гэтую расліну на сваёй дачы. Алег адразу ж выказаў жаданне асабіста заняцца такой справай: дапаможа пасадзіць і даглядаць вінаград. Які гатунак? Ён ля свайго дома мае іх ужо некалькі. Праўда, каб было прыгожа і па-гаспадарску зроблена, яму дапамагае бацька, былы вучань Вольгі Пятроўны. Сапраўдны аматар раслліннага свету.

Восенню, калі я наведаўся ў Жырмунскую школу, заняткі гурткоўцаў былі незвычайнымі. Разам з Вольгай Пятроўнай і дзецьмі мы накіраваліся ў вёску, дзе на сваіх падворках дзеці вядуць доследы. Чаго толькі яны не вырошчваюць! Нават грэцкія арэхі, пальмы, лімоны, акцындыі.

А затым мы ўсе пакрочыліляснымі сцяжынкамі. Гляджу: Валерый Вараноўскі, Алег Турчын, Саша Сургіновіч, іншыя васьмікласнікі абураюцца. У чым справа? Аказваецца, яны прышчапілі ў лесе дзічкі, каб на іх выраслі свойскія грушы. Шмат такіх дрэўцаў хлопцы "прааперыравалі". А нехта паламаў, пазрываў з некаторых дрэўцаў прышчэпы. Дзеці кажуць, што ад гэтай справы ўсё роўна не адмовяцца. Бо вельмі цікава, напрыклад, калі ў лесе будуць яблыні цвісці. Ля іх спыняцца грыбнікі, ягаднікі, паляўнічыя. З'ядуць яблык і дзякуй скажуць таму чалавеку, хто гэтыя дрэўцы прышчапіў.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ.**

# *Увага: конкурс!*

## Прыз — каляровы тэлевізар

***Рэдакцыя "Настаўніцкай газеты" аб'яўляе конкурс для сваіх індывідуальных падпісчыкаў.***

***Умовы конкурсу:***

***1. Удзельніку конкурсу неабходна даслаць у рэдакцыю пісьмо, у якім назваць магчымы падпісны тыраж на "Настаўніцкую газету" на 1 студзеня 2002 года. Тыраж называецца прапіснымі лічбамі.***

***2. У пісьме ўказваецца хатні адрас удзельніка, нумар хатняга або службовага тэлефона (калі ён ёсць).***

***Да пісьма прыкладаецца копія падпіснога абанемента (ксеракопія або напісаная ад рукі).***

***3. Пераможцам конкурсу стане той удзельнік, які дакладна назаве лічбу тыражу. У выпадку, калі дакладная лічба не будзе названа, пераможцам становіцца той, хто назаве лічбу, найбольш прыбліжаную да рэальнай. Калі ж прэтэндэнтаў будзе некалькі, то пераможцу вызначыць жараб'ёўка, праведзеная журы конкурсу.***

***4. Пры атрыманні прыза пераможцу неабходна прад'явіць рэдакцыі арыгінал падпіснога абанемента.***

***5. Удзельнічаць у конкурсе маюць права чытачы, якія аформілі падпіску на "Настаўніцкую газету" не менш чым на тры месяцы ў першым паўгоддзі 2002 года.***

***6. Пісьмы аб удзеле ў конкурсе прымаюцца па пошце або непасрэдна рэдакцыяй не пазней 21 снежня 2001 года па адрасе: 220034, Мінск, вул. Захарава, 42, рэдакцыя "Настаўніцкай газеты" з паметкай "На конкурс".***

***7. Пераможцу ўстанаўліваецца прыз - каляровы тэлевізар з экранам па дыяганалі - 54 см.***

***8. Вынікі конкурсу падводзяцца журы не пазней 20 студзеня 2002 года.***

***Для прыкладу: падпісны тыраж "Настаўніцкай газеты" на IV квартал 2001 г. склаў 27.212 экзэмпляраў.***

***Даведкі па тэл.: 236-40-63, 236-53-22, 236-91-42.***

# "Дзеці Беларусі"

***У радзільным доме Бабруйска ўстаноўлена унікальнае абсталяванне для рэанімацыі і інтэнсіўнай тэрапіі неданошаных дзяцей - яно садзейнічае выходжванню немаўлят, якія нарадзіліся вагой ад 500 да 1000 грамаў.***

У рамках праграмы "Дзеці Беларусі" абсталяванне набывалася Фондам прэзідэнцкіх праграм. Прыборы для электразабеспячэння, падтрымання тэмпературнага рэжыму, кантролю функцый і складу дыхання, правядзення рознай тэрапіі і дыягностыкі - усё гэтае абсталяванне аб'яднана ў адзін тэхналагічны комплекс. Цяпер, напрыклад, узровень білірубіну ў крыві дзіцяці можна памераць праз скуру.

Такі ж праект будзе рэалізаваны ў радзільных дамах Мазыра і першай Мінскай гарадской клінічнай бальніцы. З удзелам спецыялістаў Расійскай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі медыцынскі персанал пройдзе шматступеннае навучанне.

**Пётр ШУБЯНОК.**

ПТА: новыя грані развіцця

# Запытайце ў Раеўскай

***Вышэйшае прафесійнае вучылішча бытавога абслугоўвання насельніцтва лічыцца заканадаўцам моды ў прафтэхаўскім асяроддзі сталіцы. І не толькі таму, што прадстаўляе яно швейную вытворчасць і жыве поруч з сучаснай модай. Вучылішча даўно дыктуе свае правілы і ў развіцці прафесійна-тэхнічнай адукацыі, ва ўдасканаленні навучальна-выхаваўчага працэсу. Яно з'яўляецца цэнтрам апрабацыі навейшых адукацыйных і вытворчых тэхналогій, каардынатарам новых пачынанняў, стымулюючым фактарам развіцця прафтэхадукацыі.***

Установе сёння ўжо 56 гадоў. І за гэты адчувальны для гісторыі нашай прафтэхсістэмы перыяд швейная вытворчасць рэспублікі папоўнілася 11 тысячамі высокакваліфікаваных рабочых, многія з якіх сталі кіраўнікамі прадпрыемстваў, знакамітымі людзьмі ў мадэльным бізнесе. Вучылішча займае сёння лідзіруючую пазіцыю ў высакаякаснай падрыхтоўцы маладых спецыялістаў. Штогод для іх прадастаўляюць рабочыя месцы ў калектывах больш трыццаці прадпрыемстваў швейнай вытворчасці. Гэта Беларускі цэнтр моды, Белбыттэхпраект, вытворча-камерцыйная фірма "Прагрэс", фабрыка галаўных убораў "Людміла", Дом мод і шэраг іншых знакамітых фірм Мінска.

Ніхто не абвергне той факт, што ўстанова набыла свой творчы ўзлёт менавіта ў час дырэктарства Тамары Аляксандраўны Раеўскай, якая ўзначальвае ўстанову ўжо больш 25 гадоў.

Тамара Аляксандраўна – апантаны, няўрымслівы кіраўнік. Заслужаны работнік адукацыі, таленавіты арганізатар, яна ўмела згуртавала свой калектыў адзінай мэтай: стварыць спрыяльную абстаноўку для развіцця творчага патэнцыялу як педагогаў, так і навучэнцаў. Менавіта творчасць і натхненне заўжды нараджаюць тут поспех.

*Фінансавыя пытанні вырашаюцца ва ўстанове за кошт пазабюджэтнай дзейнасці. Вучылішча наладзіла кантакты са шматлікімі прадпрыемствамі і арганізацыямі на выкананне заказаў. Гэта не толькі шыкоўныя фіранкі, якія ўпрыгожваюць ужо мінскія вокны, а нават і канцэртныя касцюмы для знакамітых артыстаў і ансамбляў.*

Пытанні кадравага саставу, абнаўлення вучэбна-вытворчай базы, укаранення новых тэхналогій і мадэляў навучання сталі надзённымі для кожнай прафтэхустановы. Але па-рознаму яны вырашаюцца. Яшчэ ёсць кіраўнікі, якія дагэтуль чакаюць дзяржаўнай падтрымкі, лічачы яе адзінай панацэяй ад усіх праблем. А ў выніку – работа проста спыняецца.

Інжынерна-педагагічны калектыў вучылішча бытавога абслугоўвання насельніцтва абнавіўся апошнім часам на 80 працэнтаў. Прыйшлі маладыя майстры вытворчага навучання і выкладчыкі. Па ўсім відаць, пытанне недаўкамплектавання кадравага саставу стаяла і ў гэтай установе. Але дзякуючы намаганням дырэктара хутка былі знойдзены шляхі яго вырашэння. Асноўная стаўка была зроблена кіраўніком на сваіх жа выпускнікоў. Дапамаглі і дзелавыя адносіны з Віцебскім індустрыяльна-педагагічным каледжам, які рыхтуе работнікаў для прафтэхадукацыі. Чым былі заахвочаны маладыя сілы? Па-першае, стварэннем такой атмасферы, дзе пануе дух творчасці, культуры, этыкі, таварыскасці і вялікай адказнасці за даручаную справу. Развіць гэтыя якасці дапамагаюць маладому папаўненню вопытныя педагогі, школа маладога майстра, спецыяльныя семінары па ўкараненні навейшых адукацыйных і вытворчых тэхналогій, па вывучэнні мадэльнага бізнесу. Шырока практыкуюцца тут стажыроўкі маладых спецыялістаў на буйнейшых прадпрыемствах швейнай вытворчасці, у цэнтры сучаснай моды, курсы павышэння кваліфікацыі.

Адметна тое, што калектыў установы самастойна распрацаваў вучэбна-планавальную дакументацыю новай мадэлі навучання, якая адпавядае другой ступені. Справа ў тым, што прафтэхустанова працуе ў статусе вышэйшага вучылішча ўжо чацвёрты год, і сёлета адбудзецца першы выпуск навучэнцаў па прафесіі мадэльера-канструктара-прадпрымальніка. Структура паэтапнага прафесійнага навучання кадраў у ВПВ бытавога абслугоўвання насельніцтва на аснове агульнай сярэдняй адукацыі ўяўляе сабою трохэтапны працэс навучання, на працягу якога навучэнец атрымлівае ў залежнасці ад здольнасцей спецыяльнасці прафесійнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Такім чынам, групы выхаванцаў установы на першай ступені навучання набываюць кваліфікацыю краўца, закройшчыка, а на другой – мадэльера-канструктара-прадпрымальніка. Характэрна, што для правядзення навучання на другой ступені запрошаны спецыялісты Беларускага цэнтра моды і Акадэміі мастацтваў.

У гэты час калектыў установы працуе па праблеме апрабацыі мадэлі падрыхтоўкі кадраў у адпаведнасці з новымі падыходамі да зместу прафтэхадукацыі. Актыўна апрабіруецца ў вучылішчы камплект вучэбна-праграмнай дакументацыі: кваліфікацыйная характарыстыка, вучэбныя планы і праграмы. Праект эксперыментальнай работы вучылішча прадстаўлены на грант упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама.

Безумоўна, стымулюючым фактарам творчых пачынанняў калектыву ўстановы з'яўляецца матэрыяльнае заахвочванне. Але, на жаль, няма ва ўстанове надзейнага базавага прадпрыемства, якое б магло спансіраваць інавацыйныя падыходы калектыву. Шкада, канешне, ды не бяда. Фінансавыя пытанні вырашаюцца ва ўстанове за кошт пазабюджэтнай дзейнасці. Вучылішча наладзіла кантакты са шматлікімі прадпрыемствамі і арганізацыямі на выкананне заказаў. Гэта не толькі шыкоўныя фіранкі, якія ўпрыгожваюць ужо мінскія вокны, а нават і канцэртныя касцюмы для знакамітых артыстаў і ансамбляў. Высокі імідж сваіх вырабаў, якія вызначаюцца вытанчанасцю ліній, свежасцю творчай думкі, адметным густам і якасцю, навучэнцы і іх педагогі набылі на паказах і конкурсах Высокай моды, на многіх выставах і фестывалях. А вось сённяшнюю швейную вытворчасць ужо не задаволяць толькі "залатыя рукі". Вытворчыя тэхналогіі сучаснага накірунку патрабуюць і навейшага абсталявання. А каб якасць прадукцыі адпавядала патрэбам спажыўцоў, неабходна і адпаведная матэрыяльна-тэхнічная база.

У вучылішчы налічваецца сёння больш за 500 адзінак новага абсталявання, набытага ў значнай меры і за пазабюджэтныя сродкі. Прыцягваюць увагу сточвальныя, вільготна-цеплавыя, спецыяльныя машыны і аверлокі. У вучэбным кабінеце "Прыкладная інфарматыка" ўстаноўлены камп'ютэры класа "Pentium" і праведзена лакальная сетка.

Камп'ютэры сталі і крыніцай апошняй інфармацыі ў свеце моды. Яны захоўваюць даныя аб развіцці швейнай вытворчасці рэспублікі і іншых краін, каталог мадэльных вырабаў, звесткі аб вядомых куцюр'е, распрацоўкі новых тэхналагічных прыёмаў і вытворчых працэсаў. Да паслуг калектыву педагогаў і навучэнцаў – бібліятэка вучылішча, кніжны і часопісны фонд якой стракаціць навінкамі моды.

Прываблівае ўвагу і унікальны музей гістарычнага касцюма. Калекцыя яго перавысіла 50 экспанатаў, кожны з якіх з'яўляецца непаўторным шэдэўрам швейнага мастацтва. Пазайздросціў бы прадстаўленым уборам нават самы прадузяты сучаснік той далёкай эпохі. А залатая вышыўка на чырвоным аксаміце з празрыстым вэлюмам задаволіла б самую капрызную модніцу таго часу.

Але і сучасным модніцам патрэбны элегантнасць, вытанчанасць формаў і фасону, акуратнасць строчкі. Але колькі трэба папрацаваць, каб стварыць па-сапраўднаму бездакорны выраб!

У працэсе навучання будучых куцюр'е набывае вялікае значэнне ўкараненне новых адукацыйных і вытворчых тэхналогій, пашырэнне дыдактычнай базы вытворчага навучання і ўвогуле камфортная атмасфера творчасці, з чым давялося пазнаёміцца на прадстаўленай панараме адкрытых урокаў.

Юлія Уладзіміраўна Гнедчык, выпускніца ўстановы, толькі два гады працуе ў вучылішчы, але набыла ўжо пэўны вопыт. Яна не толькі ўмелы майстар сваёй справы, але і чуллівы чалавек. Трэба было бачыць, з якой любоўю і павагай звярталася яна да сваіх выхаванцаў, будучых закройшчыкаў і краўцоў. Яны адказвалі ёй тым жа. Тэма ўрока мадэліравання і мастацкага афармлення жакета была прадстаўлена ўсебакова. Былі выкарастаны шматлікія сродкі навучання – эскізы, макеты, узоры-эталоны, картачкі кантролю. Прыйшлі на ўрок нават... манекены. У іх ролі выступілі навучэнкі, якія прадстаўлялі жакеты розных фасонаў.

На ўроку былі выкарыстаны сувязі з прадметамі "Канструяванне швейных вырабаў" і "Матэрыялазнаўства".

Педагагічным крэда Святланы Рышардаўны Ярашынскай стала яе жыццёвая выснова: вучыць – значыць любіць. Даверлівыя адносіны з навучэнцамі з'яўляюцца асновай кожнага яе ўрока. На гэты раз у групе другакурснікаў па прафесіі "Кравец" Святлана Рышардаўна тлумачыла сваім выхаванцам, як зрабіць апрацоўку ніза рукава прышыўной манжэтай. Шырока выкарыстоўвала майстар вытворчага навучання ўзор гатовага вырабу, алгарытм апрацоўкі ніза рукава манжэтай, карткі задання і кантролю. Была засяроджана ўвага Ярашынскай на самастойнай рабоце навучэнцаў і карэкцыі іх дзейнасці.

Святлана Рышардаўна ўмела прымяняла ў працэсе навучання рэпрадуктыўны, тлумачальна-ілюстрацыйны, часткова-пошукавы метады, якія дазволілі наладзіць цесны кантакт з выхаванцамі.

Як і С.Р.Ярашынская, толькі тры гады працуе ў вучылішчы Кацярына Аляксандраўна Рахімава. Мэтай сваёй дзейнасці яна лічыць стварэнне такіх камфортных адносін паміж педагогам і навучэнцам, якія б спрыялі прафесійнаму майстэрству абодвух. У групе першакурснікаў яна паступова закладвала першапачатковыя навыкі і ўменні ў працэсе апрацоўкі бакавой прарэзнай кішэні ў рамку, прывівала акуратнасць у рабоце. Комплексна-метадычнае аснашчэнне ўрока было вельмі насычаным. Ужываліся інструкцыйна-тэхналагічная карта, схема кішэні, алгарытм, карткі кантролю і заданняў. Адразу адчувалася, што навучэнцам прыйшоўся даспадобы прадстаўлены ўрок.

"Я не люблю пустых вачэй", – напісала ў сваёй творчай візітоўцы майстар вытворчага навучання з 20-гадовым стажам Зінаіда Мікалаеўна Янкоўская. Выхоўваць любоў да прафесіі, імкнуцца творча мысліць – педагагічнае крэда майстра. Яна навучае прафесіі вязальшчыцы і з душою ставіцца да сваёй справы. Зінаіда Мікалаеўна ўмее даходліва растлумачыць любое пытанне, паказаць наглядна ўзор, прафесійна спраўляецца яна і са складаным абсталяваннем. Тэма ўрока афармлення ніза вырабу ажурным перапляценнем была засвоена выхаванцамі Зінаіды Мікалаеўны з лёгкасцю.

Ва ўменні педагогаў вучылішча перадаваць сваё багатае майстэрства выхаванцам можна было пераканацца на дэманстрацыі мадэляў. На вернісаж маладзёжнай моды былі прадстаўлены калекцыі мадэляў навучэнцаў і іх майстроў. Рамантычныя і ўзнёслыя назвы адпавядалі іх фасонам і колерам. Здавалася, фантазіі і творчаму палёту няма межаў.

*У стылі, якога патрабуе сённяшні дзень, працуе Вышэйшае прафесійнае вучылішча бытавога абслугоўвання насельніцтва. Гэты стыль – дзелавы, патрабавальны, сучасны, не церпіць абыякавасці і ляноты.*

Вось яны, знакамітыя "Пецярбургскія тайны", якія перамагалі на многіх конкурсах моды. Нават сама зіма паспяшалася да іх на сустрэчу і насыпала з гэтай нагоды гурбы снегу. А снег стаў, як ніколі, дарэчы. "Пецярбургскія тайны" – гэта калекцыя зімовых паліто, выкананых у стылі XIX стагоддзя.

А ў стылі, якога патрабуе сённяшні дзень, працуе Вышэйшае прафесійнае вучылішча бытавога абслугоўвання насельніцтва. Гэты стыль – дзелавы, патрабавальны, сучасны, не церпіць абыякавасці і ляноты. Мажліва, работа калектыву гэтага вучылішча стане стымулам і для многіх прафтэхустаноў сталіцы. Тамара Аляксандраўна Раеўская падзеліцца вопытам з кожным.

**Ала КЛЮЙКО.**

